# БЮЛЕТЭНЬ

Соймавага Клюбу „Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада“

№ 13 | Вільня, Пятніца 2 ліпня 1926 году. | № 13

## ПРАМОВА

**дэпутата Бр. Тарашкевіча з Соймавага Клюбу Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, сказаная на паседжаньні Сойму 25 іюня 1926 г. падчас другога чытаньня бюджэтнага прэлімінарыя на трэці квартал 1926 году.**

Паны! Кожны, хто палітычна думае і палітычна працуе, у цяперашні мамэнт перадусім мусіць даць адказ на пытаньне, што сталася ў Польшчы, — што сталася ў гэтыя крывавыя маёвыя дні. — Погляды зусім расходзяцца. Адны цьвердзяць — перадусім на правіцы, — што нічога ня сталася, — што адны людзі толькі замянілі другіх, што ня варта было рабіць гэтай т. зв. рэвалюцыі. Другія зноў, а перадусім шырокія масы грамадзанства, чакалі і сягоньня яшчэ, часткова, чакаюць глыбокай грамадзкай перамены ад гэтых пераваротаў. Дзе праўда? Нажаль, праўды няма навет пасярэдзіне. Пануе поўнае замяшаньне, ніхто ня можа зьарыентавацца ў тым, што ёсьць.

Знамянітае выражэньне Лёйд Жоржа, што **ніхто ня ведае польскай палітыкі**. Гэта адносілася да загранічнай польскай палітыкі і было зразумелай рэчай, што польская загранічная палітыка тады, калі Польшча зрабілася цацкай вялікіх дзяржаў, не магла быць выразнай, а мусіла плаваць ад аднае дзяржавы да другой.

Калі гаварыць аб унутранай палітыцы, то таксама і да гэтай пары няма і ня было сталай і выразнай палітычнай лініі. Унутраную палітыку схарактэрызавала мераньне сілаў на намяраньні, адсутнасьць азначанай лініі і супярэчнасьць паміж інтэрэсамі шырокіх масаў грамадзянства і інтэрэсамі дзяржавы з аднаго боку і паміж інтэрэсамі працоўнай клясы з другога боку. Можна тут адрозьніць два пэрыяды, адзін пэрыяд бурнага посьпеху і палітычныя пэрспэктывы зусім неспадзяваныя. Вось-жа замест розных концэпцыяў аўтанамічнай Польшчы пры Расеі, ці якойсьці абрэзанай Польшчы пры Аўстрыі, паўстае магчымасьць сягаць туды, куды вока не сягне. Зачынаюць гаварыць аб Кіеве, ідуць на Кіеў, калясальны посьпех на Усходзе. Пілсудскі кажа, што можа йсьці за Днепр, наагул туды, дзе яму толькі ўспадабаецца, — адным словам, як кажуць: Польшча ад мора да мора і ад Табольска да Берліна. Хутка, аднак, настала маленькае ацьверазеньне ў 1920 годзе з прычыны наступленьня на Варшаву. Польшча, аднак, якімсьці цудам, як кажуць, над Віслай, уратавалася. Аднак паўтараю— у гістарычнай пэрспэктыве гэта зусім прыпадковыя і неспадзяваныя для самых правадыроў польскай буржуазіі посьпехі. Пасьля гэтага бурлівага пэрыяду посьпеху настаў час выразнага расчараваньня. Першым пунктам расчараваньня былі „Крэсы“, — „Крэсы“, якія давалі гэтак вялікія надзеі польскаму імпэрыялізму. Вельмі хутка настала перакананьне, што гэты беларускі народ, аб парадачнасьці якога чулі мы яшча сягоньня з вуснаў п. пасла Домбскага, — што гэты парадачны беларускі і ўкраінскі народ ня хоча быць толькі матэр'ялам для польскага імпэрыялізму, што гэтыя народы ўсходзяць на дарогу свайго нацыянальнага і палітычнага адраджэньня, чуюць у сабе новыя сілы і даюць азнакі барацьбы. Першай гэтакай азнакай і першай пабедай былі выбары да Сойму. Доўга вы гаварылі, што жыды правялі ўкраінцаў і беларусаў да Сойму, аднак цяпер ужо вы самы перасталі гэта гаварыць. Пасьля прыйшло бурлівае лета гэт. званай дэвэрсыйнай акцыі; і зноў хацелі бачыць у гэтым вонкавыя прычыны —акцыю суседняй дзяржавы. А аднак усе тое, што робіцца сягоньня ў межах каранной Польшчы, што рабілася ў Калішу, што рабілася ў апошніх днёх у Островцу, у Гостыніне,—усе гэта даказвае, што іменна ў тым бурлівым леце на „Крэсах“ ня было вонкавай рукі, а фактычна была рэакцыя, — быў рух украінскай і беларускай людласьці.

Далей наступным расчараваньнем — з боку вонкавай палітыкі — было захістаньне тае, здавалася, ненарушальнае на доўгія дзесяткі гадоў, аб якую апіралася ўся польская палітыка,— а іменна захістаньне Францыі. І ў лучнасьці з захістаньнем Францыі Польшчу спаткалі на груньце загранічнай палітыкі адна па другой няўдача; і ўжо тое захопленьне з Захаду, гэтае слова Захад — якоесь майчнае слова — пачало паволі траціць значэньне, прынамся ў шырокіх сялянска-работніцкіх масах, і ў значнай меры інтэлігэнцыі, а навет сярод некаторых кіруючых буржуазна-абшарнічых угрупаваньняў.

Трэйцяе расчараваньне і найважнейшае — гэта было расчараваньне у сваей гаспадарцы. Усюды думалі, што Польшча, якая дастала гэтульki натуральных багацтваў, якая дастала гэтулькі зямлі, багатай жалезнай рудой і вуглём, засяўной зямлі і лясоў, — што гэтая Польшча патрапіць паставіць гаспадарку на ногі вельмі хутка.—Гэта была агульная вера.—Расчараваньне аднак прышло вельмі хутка. Польшча ўвайшла ў пэрыяд вострага і сталага крызысу, і выхад з гэтага крызысу вельмі трудны, а можа быць, навет безнадзейны, пры тэй гаспадарцы, пры тым грамадзкім ладзе, які сягоньня істнуе.

Вось найважнейшая прычына гэтай няудалай гаспадаркі — гэта перадусім жыцьцё панад меру грамадзянства і дзяржавы і прыватнае жыцьцё панад меру ўсяе польскай буржуазіі і шляхты. У грамадзкім жыцьці хацелі дасягнуць да вышыні вялікае дзяржавы, будавалі армію і адміністрацыю вялікае дзяржавы, загранічную палітыку вялі гэткую-ж і надзілі дэфэнзыву панад меру нават вялікай дзяржавы. А ў рэзультаце ўсё гэта дало, што зьбяднеўшы край ня мог вытрымаць і пачала трашчаць уся гаспадарка. І пачалі тады гэты хворы арганізм з боку грамадзкага і палітычнага папраўляць і лячыць. Ужо ўрад Сікорскага выступіў у характары „направы“ рэспублікі. Пасьля прыходзілі іншыя ўрады, якія сьцвердзілі, што будзе горш. Прыйшоў урэшце Грабскі, пра якога проста сказана, што аграбіў Польшчу, — пачалі рабіць фінансавую, валютовую і гаспадарчую санацыю. Санацыі лопалі адна па другой і пачалі рабіць санацыю санацыі. Пасьля санацыі санацыі прыйшоў урэшце час, што трэба было яшчэ адну санацыю зрабіць, а іменна „маральную санацыю“. Адзін з паслоў, — п. пасол Міхальскі — параўняў коаліцыйны ўрад Хіена-Пяста-П. П. С. да таго лебедзя, рака і шчупака з байкі Крылова, дзе кожны цягне на свой бок. Маю ўражаньне, што пэўны вельмі популярны чалавек ў Польшчы ў сваім зацішы, развяжаўшы аб урадах, прыпомніў сабе другую байку Крылова — Кварцет, — і прыроўнываў да яго гэтыя ўрады міністраў, якія ўпраўлялі залежна ад таго, хто як сядзе, думаючы, што тады будзе гармонія ў музыцы; — і гэты популярны чалавек, прыпомніўшы словы „как не садитесь, — всё в музыканты не годитесь“ — як у расейскай быліне „Салавей Разбойнік“ — узяў бізун і разагнаў усё гэта.

Які-ж сэнс усяго таго, што сталася? Шырокія масы грамадзянства чакалі вялікіх перамен і таму-то вуліцай сяляне і работнікі — пераважна ў каранной Польшчы — йшлі і часто цяпер ідуць за імём Пілсудскага, — бо спадзяваліся, што Пілсудскі, — гэты экс-сацыяліст і экс-рэвалюцыянер — які ў часе перавароту сказаў, што ня можа быць занадта многа несправядлівасьці ў адносінах да тых, якія сваю працу аддаюць іншым; — спадзяваліся, што гэты Пілсудскі дасьць сялянам землю, работнікам працу і вольнасьць паняволеным і прыгнечаным народам.

Але хутка настала расчараваньне. Калі гаварыць аб „крэсах“, спэцыяльна аб беларускіх землях, то можна сказаць, што там з імем Пілсудскага ня зьвязвалі вельмі вялікіх надзей. Калі хто зьвязваў гэтыя надзеі і гаварыў, што можа быць ляпей, дзякуючы гэтай перамене, то толькі таму, што за часоў, калі Пілсудскі быў Начальнікам Дзяржавы, селянін гэтакіх падаткаў не плаціў, якія плаціў за часоў Грабскага і Скшынскага. (Перарываньні). Плаціў інфляцыю, але на гэта трэба быць эканамістам, каб зразумець, што гэта такое інфляцыя. Селянін гэтага не разумее і думаў, што гэта дзякуючы вайне. Але зараз пасьля перавароту Пілсудскага прыйшлі срокі платы падаткаў, розных прасрочаньняў, і калі **пры сьцягваньні гэтых падаткаў пачалі сьцягаць скуру з селяніна**, селянін сказаў: „Даволі“.

І прыпомніў сабе Пілсудскага, таго Пілсудскага, які распачаў асадніцтва на „Крэсах“, таго Пілсудскага, пры якім дэфэнзыва трактавала сялян гэтак, як цяпер, таго Пілсудскага, які абяцаў фэдэрацыю, і які пасьля вельмі ўстыдліва яе выракся і сказаў, што хоць гаворыў аб фэдэрацыі, але ніколі паважна гэта не трактаваў. **Сказаў тады селянін: „Даволі“; ня можна спадзявацца ад Пілсудскага палёгкі“.**

**Ня можна спадзявацца ад Пілсудскага палёкаў у нацыянальных справах.**

Значыць, выглядала-бы, што нічога не зьмянілася, а аднак зьмянілася. Не зьмянілася толькі тое, што ўрад Пілсудскага, які гэтак многа шырока і высока гаварыў аб маральнасьці, што гэты **ўрад нічога не гаварыў іменна аб зацягнуўшыхся падатках, аб тых 740 мільёнах, што не заплачаны абшарнікамі і буржуазіяй.**

Вы пасьмехваецеся,— вельмі Вас, паны, разумею, што Вы, як абшарнікі, пасьмехваецеся. У грамадзкай палітыцы нібы ўсё на месьце, толькі курс больш рашучы. Абшарнікі і асаднікі на „крэсах“ так паднялі галаву, як ніколі да гэтага часу не паднімалі. Вы, паны, ня ведаеце, — можа ня будзеце ўжо пасьмехвацца, — што на гэтым груньце паўстала цэлая хваля канфліктаў паміж вёскай і дваром. (Голас на лявіцы: знаць моцную ўладу). Калі гаварыць аб сэрвітутах, якія зьвязаны нямаль з кожнай вёскі, — то гэта першая вясна, калі абшарнікі так бяссумленна папросту пачалі паступаць з сялянамі, пачалі на гвалт прадаваць сэрвітутную зямлю, ня маючы на гэта права. І **калі** ў гэтым годзе, а іменна цяпер **сяляне на свае пасьвішчы**, якія да іх паводле права належаць з-прад вякоў, **выгналі свае стады**, зьявілася паліцыя—і не ў адным месцы, але ў кожным павеце было па некалькі гэткіх выпадкаў, што **зьявілася паліцыя і страляла ў сялян, разганяючы іх** (Голас на правіцы: парадак быць мусіць). Парадак быць мусіць, але на гэта няма ніякага права.

Далей -Пілсудскі рэвалюцыянер сам, тэрарыст сам, экс-сацыяіст, які змагаўся за вольнасьць, сягоньня з спакойным сэрцам і сумленьнем адносіцца да тысячаў тых людзей — найлепшых сыноў свайго народу і свае грамадзкай клясы, якая змагалася за вольнасьць для сялян і работнікаў і уцісьненых народаў. **Пяць ці шэсьць тысячаў палітычных вязьняў гніе ў вастрогах, а Пілсудскі слова ня пусьціць аб амністыі**, — і гэта вельмі характэрна.

Калі гаварыць аб прасьледаваньні прэсы, то **прэса прасьледуецца яшчэ больш востра**, чым перад гэтым. Перад гэтым закрываліся якімсьці канстытуцыйным поглядам, а цяпер гавораць: такі час, што ня можам пазволіць на гэтае, або на тое. **Тое самое** са сходамі і вечамі, наагул **з усімі грамадзкімі свабодамі.**

Гаворачы аб сьцягваньні падаткаў, мушу тут прыпомніць адну падрабязнасьць, што ўжо выданы загад, а калі ня выданы, то ўведзена на практыцы, што **да кожнага сэквэстратара, сьцягваючага падаткі, прыстаўляецца** адзін вельмі цікавы дадатак, а іменна **паліцыянт з ружжом, які** прыходзіць і **з ружжом і штыхом вырывае з-пад галавы апошнюю падушку ў нашых сялян.—У дварох гэтага ня робяць**, — і гэта дае магчымасьць пану Дубановічу вельмі вясёла пасьмехвацца і рабіць дасьціпы.

Калі гаварыць аб новым курсе палітыкі да меншасьцяў, то тут кормяць людзей, людзей пакорнага сэрца, парадачных прадстаўнікоў народу абяцанкамі, але абяцанкі — цацанкі, а каму-сьці радасьць,—гэта кажа прыказка. Мушу тут зачапіць яшчэ адну справу, бо аб урадзе ня маю чаго гаварыць. У груньце рэчы я таксама магу махнуць рукой на ўрад, як урад на мяне, бо ўрад апрача гутаркі з пэўнымі людзьмі, апрача фармаваньня запрадаўшыхся арганізацыяў, якіхсьці розных Павлюкевічаў, абсалютна ніякіх іншых плянаў ня мае, — і яны—Павлюкевічы — паза-парлямантарна маюць прадстаўляць украінскую і беларускую грамадзкую думку; фэдэруецца з Павлюкевічамі, гэта значыць з тымі, якіх з бюджэту беларускіх сялян і работнікаў утрымоўвае.

Але хацеў-бы зачапіць адну справу, а іменна апошняе аб'ясьненьне ў справе нацыянальных меншасьцяў польскай дэмакратычнай лявіцы. Гэта— прызнаю паном — адвага з вашага боку. Фактычна ўся дагэтачасная палітыка да нацыянальных меншасьцяў была дыктована тэрорам на урад з боку дэвотак з-пад Сьвятога Крыжа. Вы, паны, мелі больш адвагі, чым тыя людзі, што вышлі з маёвай рэвалюцыі і не пабаяліся гэтых дэвотак і абяцалі меншасьцям: беларусам і ўкраінцам... аж аўтаномію. Я скажу больш. Вы пашлі так далёка, што прызналі правы беларусам і ўкраінцам. Пазнаць можна ў Вас патомкаў польскай шляхты, а іменна Заглобы, які дараваў Нідэрляндзію. (Воплескі на лаўках меншасьцяў). Я думаю, што далёка лепей зрабілі-б вы, калі-б сказалі папросту, што аб аўтаноміі можа быць мова, а аб незалежнасьці не гаворым, — але гэтак прызнаваць права незалежнасьці дзесьць у іншым месцы, а тут у сябе толькі аўтаномію..., то гэта такая этыка, якой называць ня буду. Але аднак кажу, што штосьць сталася, што штосьць зьмянілася. Маршалак Пілсудскі сказаў, што зрабіў рэвалюцыю праз вялікае і падвойнае „Р“, але без рэвалюцыйных вынікаў. Чалавек, які не жартуе славамі, і які шануе здаровы рассудак, ня можа сказаць, што штосьці сталася так вялікае, як рэвалюцыя і то бяз ніякіх рэзультатаў. Рэвалюцыя мусіць мець рэзультаты і то рэзультаты рэвалюцыйныя,—або гэта не рэвалюцыя. Я думаю, што **гэта не рэвалюцыя, бо гэта ня быў пераварот — ня была рэвалюцыя аднае клясы проці другой.** Адбылося толькі перамяшчэньне самай польскай буржуазіі. Пілсудскі, які думаў, што той датагочасны кварцет ня дасьць ніякай сымфоніі, разагнаў усю гэтую музыку і ўзяўся сам за кіраўніцтва. Мае кіраваць, чуючы, ці ня чуючы, што над ім ёсьць іншы кіраўнік, — кіраўнік ангельска амэрыканскага капіталу.

Сцьвярджаю, што Пілсудскі вырашае тое самае грамадзкае пытаньне, а іменна ратаваньне польскай буржуазіі і імпэрыялізму, тое самае пытаньне, якога няздольна ўрадуючыя ўгрупаваньні не маглі вырашыць. Хоча ратаваць вас проці вас і паміма вашай волі. І таму-то Пілсудскі зрывае ўсялякія заслоны парлямантарызму і конституцыянізму,—**маем папросту незамаскованую вайсковую дыктатуру, уведзеную** нібы ў імя ўсяго народу, ня ў імя партыі, а фактычна ў **інтарэсе валадаючай клясы, у інтарэсе польскай буржуазіі, у інтарэсе абшарнікаў, а навет у інтарэсе вялікага капіталу і амэрыканскага гандлю.**

Хоць ня ўсё скрысталізавалася ў гэтай дыктатуры Пілсудскага, аднак што-раз то выразьней

зарысоўваецца фашыстаўскі воблік і навет ёсьць калясальнае псыхічнае падабенства паміж Мусолінім і Пілсудскім. Абыдва экс-рэвалюцыянэры, экс-соцыялісты,—абыдва хварэюць на манію велічы: — адзін на веліч свайго народу, — другі на сваю ўласную веліч; — аднак абыдва маюць неакелзаную фантазію велічы — ў разьмерах да гэтага часу ў гісторыі не спатыканых.

Калі гаварыць аб спосабе ўпраўляньня, трэба сказаць, што **гвалт, сіла і кулак ужо гуляюць у Польшчы** з большай свабодай і шырынёй, чым у Італіі. А якая-ж пэрспэктыва выглядае з гэтага стану рэчы, які зусім слушна мусіць быць названы Пілсудчынай? — Няма сумліву, што **грунт пасьля маёвага перавароту** не зрабіўся больш цьвёрдым, **але зрабіўся больш няпэўным. Польшча прысьпешаным тэмпам ідзе да сацыяльнай рэвалюцыі.** Гаспадарка зруйнована, і ў палажэньні проста бяз выхаду. Ніякі гэній не паможа. Ніякі вываз, хоць-бы найбольш амэрыканскі, нічога ня зробіць, бо для ўтрымоўваньня вяліка-дзяржаўнай арміі, вяліка-дзяржаўнага паліцыянта, адміністрацыі, дэфэнзывы багацтвы краю вычарпаліся.

Пануе агульнае абядненьне найшырэйшых масаў грамадзянства: селяніна, работніка і працоўнай інтэлігэнцыі; — не паноў, бо паны, як курылі цыгары, так і кураць. Прадукцыя стаіць. А тут веліч буржуазна-абшарнічай дзяржавы, вяліка-дзяржаўная манія велічы жадае, што-раз, то новых і што-раз, то цяжэйшых ахвяраў перадусім ад тых, хто аддае сваю працу іншым.

Каб памагчы гэтаму трэба колёсальных грошай, трэба помачы загранічнага капіталу, іначай —сацыяльная рэвалюцыя. І іменна гэтыя новыя мамэнты ў польскай палітыцы, гэтыя мамэнты робяць, можна сказаць, пераломны час. Цяпер імена стаўся гэты паварот у польскай палітыцы, які можна назваць пачаткам ангельскай ілюзіі. Пасьля француcкіх ілюзіяў, пасьля францускай хваробы, прыходзяць ангельскія ілюзіі, прыходзіць ангельская хвароба. Польшча робіцца лялькай імпэрыялістычных інтарэсаў Англіі. Бо так: калі Польшча дастане пазыку, то дастане не на адбудову свае гаспадаркі, як такой, а толькі палітычную пазыку,—пазыку, якая запэўніць Англіі, што Польшча разам з яе іншымі новаздабытымі васаламі стане ў супольны фронт проці Савецкага Саюзу. (П. Мантэрыс: гэта Вам баліць). Мне здаецца, што Вам больш баліць, чым нам. Пасьля гэтай пазыкі гаспадарчая сытуацыя можа часткова паправіцца, але паправіцца не надоўга, бо для разьвіцьця польскай прамысловасьці, для разьвіцьця польскай гаспадаркі патрэбны рынак збыту. А рынкі збыту ляжаць перадусім на Усходзе. Новая-ж ангельская палітыка гэтыя рынкі зачыняе, а не адчыняе, хоць савецкія і ўсходнія рынкі наагул з кожным днем расшыраюцца і маглі-б у значнай меры зьмясьціць прадукцыю польскай прамысловасьці. Якія-ж будуць рэзультаты гэтай процісавецкай палітыкі? Мне здаецца, што гэта ня толькі я скажу, — што згодзяцца са мною навет угрупаваньні, засядаючыя на правіцы Сойму,—што, дзякуючы гэтай палітыцы, будзе вайна з Савецкім Саюзам, — вайна з Расеяй, як тут кажуць.

І ініцыятары новай про-ангельскай палітыкі павінны вельмі паважна затрымацца над тым, чым гэта можа скончыцца, бо мне здаецца, што ў перспэктыве падзеяў Англіі само істнаваньне Польшчы не зьяўляецца неабходным. І тады, калі Англія забясьпечыць спакой на Заходзе, калі будзе пераконана, што вайна на Усходзе ня выкліча ваеннага пажару ўва ўсёй Эўропе, — тады Англія можа даць грошы навет на тое, каб упхнуць Польшчу ў вайну і папросту згубіць яе. І такім чынам Нямеччына была-б задаволена на Заходзе, а тады Саветы ці Расея мела-б ці беспасярэднюю граніцу, ці ў кожным разе граніцу сваіх палітычных ўплываў з Нямеччынай, а ў такім выпадку мусіла-б стаць у абозе проці-нямецкім.

Утварэньне новага рэжыму залежыць ад ангельска-амэрыканскага капіталу. Капіталу гэтага ня будзе і ўся перспэктыва ня ўдасцца. А калі будзе капітал, то будзе ўзмоцнены стан валаданьня польскай буржуазіі.

У лучнасьці са стабілізацыяй паўстануць дваякага роду ілюзіі: з аднаго боку грамадзкія ілюзіі, а з другога — палітычныя, калі гаварыць аб нацыянальных меншасьцях. Грамадзкімі ілюзямі, ілюзямі для шырокіх масаў, — найважней — для ўгадовых павадыроў іх — гэта будзе стабілізацыя капіталізму. П. П. С. (Польская партыя Соцыялістычная) год таму назад уважала за аксіому, за пункт свайго „credo“ стабілізацыю капіталізму на даўжэйшы час ў Эўропе, а сягоньня ўжо чытаем на страніцах „Robotnika“, што капіталізм увайшоў у пэрыяд трывалага і глыбокага крызісу.

Калі стабілізацыя настане пад фашыстаўскай нагайкай, то будзе ня моцна і хутка давядзе да агульнай вайны, бо фашызм—гэта перадусім прынцып мілітарнага кулака,— кулака нацыяналістычнага і імпэрыялістычнага. Паслухайце, што кажа Мусоліні, ці ў яго славах ня чуеце падземных удараў вулкана, які што-хвіля можа выбухнуць вайной. Мусоліні пад неба падносіць толькі свой народ, які кажа, што толькі Італія, а ня хто іншы, мусіць стаць на чале ўсіх народаў сьвету, што ўсе іншыя, навет найболей культуральныя, варты толькі таго, каб чысьціць боты італьянцам. Чытайце мовы Мусоліні і параўнайце іх са стылем Маршала Пілсудскага. А гэтакіх паноў, як Мусоліні, што-раз больш знаходзіцца ў Эўропе, і рэзультатам гэтай доктрыны зьяўляецца вайна, новы сусьветны пажар, які мусіць кончыцца грамадзкім пераваротам.

Аб нацыянальных ілюзях, аб гэтым новым курсе, скажу толькі, што польская бюракратычная машына, створаная для нацыянальнага ўціску, ня можа даць красак вольнасьці, хоць-бы фальшывых і папяровых. Жадаць ад гэтай бюракратычнай машыны, каб яна давала краскі гэтай вольнасьці, гэта тое самое, што хацець сьпячы яечню на машыне да шыцьця.

Паны, якія абіваеце парогі габінэту Бартля, можаце вынесьці з гэтага габінэту ўсьмешку культуральнага чалавека, — можаце пасьля ў кулюарах чуць насьмешкі над вамі, але канцэсіі для народу не здабудзеце, хіба-што будзеце здабываць для групаў, або для самых сябе, чаго, знаючы вас, не спадзяюся.

У нацыянальнай палітыцы трэба было-б прыпомніць дэвізы „маральнай санацыі“ і трэба было-б прыпомніць, як Пілсудскі паступаў, якая была маральнасьць Пілсудскага, калі Польшча была ўцісьнена, калі Польшча была падняволена. Маральнасьцяй тады было Пілсудскага змагацца, хоць-бы з аружжам у руках — з браунінгам, з бомбай. Тады было маральнасьцей Пілсудскага разьбіваць цягнікі, разьбіваць касы, забіваць урадоўцаў, заклікаць не плаціць падаткаў. Ніхто парадачны ня можа сказаць, што можам іншую навуку, іншы спосаб тактыкі вынясьці з гэтага, як тое, што рабіў Пілсудскі. Але не хачу, каб блага разумелі мяне. Кажу, што цяпер мы ня бачым адпаведнага грунту да беспасрэдняй дзейнай акцыі. Мы ня ідзем шляхам тэрору, асабліва шляхам індывідуальнага тэрору, але **ідзем да масаў з дэвізам нацыянальнага і сацыяльнага ўсьведамленьня, з дэвізам клясавай салідарнасьці, клясавай барацьбы, барацьбы сялян і работнікаў плячо з плячом за самаазначэньне народаў, за сялянска-работніцкі ўрад, за перамогу над шляхтай і буржуазіяй за грунтоўнае перабудаваньне ўсяго грамадзкага ладу.**

Даверыя да ўраду ня маем і галасаваць за бюджэт ня будзем.

# Інтэрпэляцыя № 64

дэпутата Мятлы з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Мін. Унутраных Спраў **у справе зьдзекаў камэнданта пастарунку дзяржаўнай паліцыі ў Ліпнішках над беларускімі сялянамі.**

Тэрор адміністрацыйна-паліцэйскай ўлады ў адносінах да сялянска-работніцкай клясы праводзіцца ў найбольшай ступені на землях Заходняй Беларусі. Паліцыя, служачая на гэтых абшарах, набіраецца з найболей брутальнага і адзічалага элемэнту, а поўная „свабода дзейнасьці“ і таксама поўная бескаральнасьць зьяўляюцца прычынай распасанай самаволі паліцыі ў Заходняй Беларусі. Проста вытвараецца тып паліцыянта-садыста, які б'е і зьдзеківаецца выключна для ўласнага задаваленьня, каб заспакоіць прагненьне біцьця, — любуецца садыстычнымі оргіямі.

Прадстаўніком гэтага тыпу зьяўляецца п. Коцінскі, камэндант п. дз. паліцыі ў Ліпнішках, Лідзкага пав. Атрымоўваем цэлы рад вестак аб гвалтах, на якія пазваляе ён сабе ў адносінах да сялянска-работніцкай люднасьці,

З в. Новыя Вергане, Ліпнішскай гм. пішуць нам: 15 лістапада мінулага году паклікалі Мацея Ёдку, жыхара вышэй памянутай вёскі, на пастарунак дзяржаўнай паліцыі ў Ліпнішках. Як вышлі ўсе інтэрэсанты з пакою, камэндант Коцінскі кінуўся на прыйшоўшага Едку і пачаў біць рукаваткай равальвэру па галаве і твары. Пасьля пачаў біць кульбай з такою шалёнасьцяй, што катаваны некалькі разоў траціў прытомнасьць. Калі Едка прыходзіў да прытомнасьці, катаваньне паўтаралася зноў. Пасьля пратрымалі паўжывога — з прычыны гэтых катаваньняў—у гмінным арышце цэлую пору (суткі) і зьвольнілі. Пасьля толькі даведаўся Едка, што клікалі яго на пастарунак паліцыі з прычыны сямейнага непаразуменьня і вынікнуўшага з гэтага канфлікту з братам на груньце інтэрэсаў дамашняй гаспадаркі. Скатаванага агледзіў фэльшар з Ліпнішак.

Падобны выпадак здарыўся з Кастусём Валюшкевічам з в. Раўбавічы, Ліпнішкай гм., Лідзкага пав.: — 5 сакавіка сёл. году паклікалі памянутага Кастуся Валюшкевіча на пастарунак п. паліцыі у Ліпнішках. Як толькі ён прыйшоў, — замкнулі яго на цэлую пору ў гмінным арышце. Увечары на другі дзень прывялі арыштаванага на пастарунак паліцыі, куды па некалькіх гадзінах зьявіўся камандант гэтага пастарунку Коцінскі і разам з паліцыянтам Шуцінскім пачалі агідным спосабам катаваць арыштаванага. Паліцыянты скавалі сваей ахвяры рукі і ногі, разьдзелі да гола, палажылі на падлогу і накрылі мокрымі ганучамі. Пасьля камандант пастарунку Коцінскі пачаў біць ляжачага гэт. зв. бізунам, гэт. ёсьць нагайкаю з кавалкамі волава на канцох і таптаць яго нагамі. Катаваны страціў прытомнасьць. Як ачнуўся, паставалі скутага яго пад сьцяну, прычым адзін з паліцыянтаў прытрымоўваў яго, а другі бі — гэтак наперамену, пакуль катаваны зноў ня страціў прытомнасьці. Калі ачнуўся, — ляжаў на зямле, увесь у ранах, заліты крывёю. 7 сакавіка сёл. году прыйшоў на пастарунак брат арыштаванага і прынёс яму ежу (да гэтага дня трымалі арыштаванага галодным). Камэндант Кацінскі зьбіў яго і выкінуў вон.

9 сакавіка сёл. году катаванага зволькілі.

Аб гэтым самым Коцінскім пішуць далей:

У першых днёх красавіка камэндант дзяржаўнай паліцыі Коцінскі ўвайшоў у хату Левіна ў м. Ліпнішках, куды сабраліся сяляне на выплату за дастаўку дзерава. Коцінскі пачаў без усялякай прычыны разганяць сабраўшыхся, б'ючы іх і пагражаючы равальвэрам. Перапалоханыя сяляне пачалі расходзіцца, прадаючы Левіну свае квіткі са значнай стратай. Ці-ж гэтая спэкуляцыя была прычынай нападу Коцінскага на сабраўшыхся на выплату сялян.

А вось яшчэ адзін прыклад гвалту паліцыі ў Ліпнішках:

Летам мінулага году Язэп Мацэцкі, Адам Бальцевіч, Браніслаў Магільніцкі і Станіслаў Гірчыц, жыхары в. Шылуце. Ліпнішскай гм., Лідзкага пав. лавілі рыбу ў рэчцы Гавія. Коцінскі адабраў у сялян невад і рыбу і пасадзіў іх на пору (суткі) арышту. Невадаў і па сягоньняшні дзень не аддаў.

Падаючы да ведама п. Міністра гэтыя факты, падпісаныя пытаюцца:

1) ці склонны ён ураз-жа пазбавіць права ўрадаваньня камэнданта пол. дзяржаўнай пал. ў Ліпнішках?

2) ці склонны ён загадаць ураз-жа сьледзтва ў справе вышэй апісаных праступкаў і гвалтаў паліцыянта Коцінскага і пацягнуць яго да судова-карнай адказнасьці?

Варшава. 28 красавіка 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

# Інтэрпэляцыя № 67

дэпутата Ю. Сабалеўскага з Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады і тав. да п. Міністра Унутраных Спраў **у справе нарушэньняў права самаўрадавай улады ў Стаўпецкім пав.**

Вясковыя гміны Стаўпецкага пав. ў апошнія часы стала змушаюцца да ўдзелу у дарожных работах, у розных папраўках і гэт, дал. З розных канцоў павету даходзяць паведамленьні аб накладаньні надмерных цяжараў, якіх люднасьць навет ня можа выканаць. Апрача таго — вымаганьне ад сялян выпаўненьня цяпер натуральнай павіннасьці, падчас трываньня палявых работ, наагул недапусьціма. Навет устаў з дня 10-га сьнежня 1920 году аб дастаўцы падводаў для перавозу будовы і ўтрыманьня публічных дарог і мастоў (Дз. У. П. Р. № 6, 15 студзеня 1921 году) выразна засьцерагае ў 6 парагарфе памянутага ўставу, што „гэты абавязак можа тычыцца толькі сялян у часе вольным ад палявых работ“.

Тымчасам самаўрадавая ўлада Стаўпецкага пав. дамагаецца ад сялян натуральнай павіннасьці ў цэлым радзе мясцовасьцяў.

Паміж іншым канкрэтна даносяць нам аб гэтых надужыцьцях з наступных гмін Стаўпецкага пав. (Наваградз. ваяв.).

Засульская гміна выдала загад, якім змушала належачыя да яе вёскі — Найдзяновічы, Трылес, Шаркаўшчыну і Новаселье — перавязьці 4.000 куб. мэтраў пяску і — змушала да дарожных работ.

Стаўпецкі гмінны ўрад вымагае ад сялян з вёскі Кучканы возкі каменьняў. Навет за працу, выкананую на падставе вольнага найму пры дарожных работах, кончаных ўвосені мінулага году, да гэтай яшчэ пары не заплочана сялянам. Дарожны Аддзел і Павятовы Аддзел Стаўпецкага пав. для дамагаючыхся належнай ім платы мае заўсёды адзін і той самы адказ: няма грошай.

У вёсках, ляжачых на берагох Сулы, гміны змушаюць сялян да рэгуляцыі гэтай-жа рэчкі.

На лініі Стаўпцы — Мікалаеўшчына гмінныя ўрады змушаюць сялян да дарожных работ у лесе, належачым да Радзівілла—тады як да гэтай пары гэтую работу выконвала на свой кошт адміністрацыя Радзівіллаўскіх багацьцяў.

У мястэчку Сьвержань заліты вуліцы, дзякуючы выліву вады паза-грэблю пры млыне Радзівілла. Не падляжыць ніякага сумліву, што віну і рэзультат гэтага факту нясе ўласьнік млына. Гмінныя ўлады аднак змушаюць жыхароў м. Сьвержань да прымусовых і бясплатных работ, каб асушыць залітыя вуліцы.

Даводзячы аб гэтым да ведама п. Міністра, ніжэй падпісаныя пытаюцца:

1) Ці склонны п. Міністар выдаць адпаведны загад, каб рассьледаваць вышэй апісаныя надужыцьці самаурадавай гміннай улады ў Стаўпецкім павеце ?

2) Ці склонны ён пацягнуць да адказнасьці віноўных змушаньня сялян да натуральнай павіннасьці падчас палявых работ?

3) Чі склонны ён паучыць адпаведныя самаурадавыя ўлады, што сяляне не абавязаны да прымусовых і бясплатных работ на карысьць Радзівілла.

Варшава, 22 чэрвеня 1926 году.

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.

Выдавец: Соймавы Клюб Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.